га каменя, формаліны, сублімату, сумысных мяшанак гермізану, устулюну, а да сухога ўжываецца г. зв. зярняк.

Сіні камень (медзяны купарас) прыгатаўляецца аднапрацэнтны: на сто літраў вады даецца адзін кілёграм купарасу. Лепш распусьціць купарас спачатку ў меншай колькасьці гарачай вады і пасьля даліць гэта да рэшты вады ў дзераўляным цэбры ці якой дзежцы, так-жа дзераўлянай. Гэтых 100 літраў разьведзенага купарасу можа хапіць на байцаваньне 300—400 кілёграмаў сяўбовага насеньня. — Само байцаваньне выглядае так: бяром густы кошык, для пэўнасьці высьцелены чыстым палатном, насыпаем у яго насеньне і, затопліваючы ў растворы купарасу, старанна вымешваем праз 5 мінут. Усплываючае наверх сьмяцьцё зьбіраем і спаліваем (атрута!). Па пяцёх мінутах кош з насеньнем выбіраем, старанна прапаласківаем у дзяжы з чыстай вадой і рассьцілаем ценькім пластом на чыстым таку (лепш на падлозе) ў гумне ці ў іншым правеўным месцы, часта яго пры гэтым пераварачваючы (шуфлюючы). Праз дзень-два насеньне ўжо можа быць гатовым да севу.

Каб прабайцаванае насеньне ўсьцерагчы ад паўторнага заражэньня, трэба месца сушкі спачатку скрапіць тым-жа растворам купарасу, змачыць у ім і пасьля высушыць мяшкі, у каторыя сяўбавое насеньне будзе набірацца да севу; таксама ўсякую снасьць, з якою байцаванае насеньне будзе стыкацца перш чым дастанецца ў глебу (лапаты, лубкі, сеялкі), трэба прад кожным ужыцьцём змачыць растворам таго-ж самага купарасу.

Формаліна—раствор 0.1 прац. (на 100 літраў вады ¼ літра прадажнай 40 прац. формаліны. Байцаваньне трывае 20 мінут. Рэшта як пры м. купарасе.

Сублімат—0.1 прац. раствор (1 грам на 1 літр вады). Насеньне ў ім не затопліваецца, а толькі спырсківаецца. На 100 кілё насеньня выходзіць 15 кілё раствору. Сушыць досыць поўгадзіны.

Гермізан (Germisan) ужываецца ў 0.25 прац. (чверць працэнтным) растворы. На 100 літраў вады даецца 250 грамаў (¼ кілё) парашку. Байцуецца 30 мінут. Аднэй порцыі раствору хапае на 300 кілё сяўбы.

Успулюн ўжываецца таксама ў 0.25 прац. растворы. Рэшта як у гермізану, толькі успулюн мацнейшы і аднэй порцыі (250гр.) хапае на 400—500 кілё сяўбы.

Сухое байцаваньне палягае на тым, што сяўбовае насеньне перамешываецца з парашком байцу на суха. Ужываюцца да гэтага парашкі сухога успулюну, агавіту і апошнім часам успомнены ужо зярняк. Перамешываньне адбываецца ў шчыльна замкнёнай кадушцы, якую найлепш прыгатаваць так, каб круцілася навокал укоснай васі. На 100 кілё сяўбовага насеньня выходзіць 150 грамаў парашку успулюну (на суха) ці агавіту. Байцаваньне на суха трывае 5—7 мінут.

Выгоды байцаваньня на суха перад байцаваньнем на мокра наступныя:

байцаваньне на суха ня нішчыць параненага зярняці,

няма небясьпекі пратрыманьня сяўбы ў растворы,

насеньне зараз-жа можа быць высеена (ня трэба сушыць) і

бароніць ад зародкаў хваробы ня толькі тых, якія ўжо знаходзяцца на зярняці самым, але і ад тых, з якімі можа спаткацца ў заражанай глебе: зерне байцаванае на суха прыходзіць у зямлю ў ценькай павалоцы парашку, каторы яго бароніць ад усякіх хваробных зародкаў.

**А. К.**

# Сейце зімовую выку!

Шторaз выразьней становіцца, што нават пры сучасным абясцэньваньні ўсей земляробскай вытворчасьці, у дробнай асабліва гаспадарцы карова была, ёсьць і астанецца ня толькі жывіцелькай беспасярэдняй, але і адзінай бадай крыніцай дробных, можна сказаць — штодзенных даходаў земляроба, на ягоны зварот. Бяда толькі ў тым найчасьцей, што наш гаспадар мае досыць малака тады іменна, як яно таннае, а вясной (м-цы травень—чэрвень), калі малако мае цану, яго звычайна няма. Чаму? Бо селянін наш у гэту пару ня мае для каровы пашы.

Вось-жа дзеля выпрадукаваньня адпаведнай колькасьці добрай вясьнянай пашы, у нашых варунках найбольш прыгодная мяшанка азімай выкі (касматай, званай *vicia villosa*) з жытам або пшаніцай. Гэта мяшанка дае пашу ўжо ў першых днёх м-ца траўня (мая) і далей. Вымаганьні азімай выкі вельмі скромныя. Удаецца яна на ўсякай глебе, з выключэньнем, натуральна, сыпучых пяскоў; не баіцца нават глебаў мерна падмоклых. Натуральным варункам ураджайнасьці зімовай выкі, як і кожнай пасьляжніўнай мяшанкі, ёсьць дастатак атмосфэрычных вопадзяў (дажджу) у пару прарастаньня (м-цы: жнівень-верасень). У нас на гэта жаліцца звычайна на можна.

У гаспадарчым севазвароце азімая выка звычайна прыходзіць на поле пасьля жыта, ячменю, а таксама пасьля раней выкапанай бульбы.

Пры засяваньні выкі важна тое, каб выпрадукаваць як найбольшую колькасьць зялёнай расьціннай масы: дае гэта шмат корму, а ў глебе, апрача набранага з паветра азоту, пакідае йшчэ вялікую масу карэньняў, якія таксама перапрэваюць на цэнны гной.

Прыгатоўваць глебу трэба зараз-жа пасьля зьняцьця першай зьмены — мелка ўзараць аржышча. Калі ёсьць якая магчымасьць

пагнаіць поле пад азімую выку штучнымі гнаямі, дык адплаціцца гэта напэўна. На гэктар даецца 400 кілё каініту і 200—300 тамасшляку. На цяжэйшых грунтох замест гэтага лепш даць адпаведную (меншую) колькасьць паташавай солі і супэрфосфару. Гэтыя пагноі можна даць ужо на аржышча і пасьля прыараць. Але лепш будзе, калі рассеіць пагноі на аржышчы ўзараным і пасьля прыбаранаваць. У гэтым апошнім выпадку патрэбна йшчэ другая прадпасеўная ворка— мешань.

З сяўбой ня можна сьцягіваць. Выка пасееная сама звычайна палягае і таму ёй трэба даць апірышча, усейваючы ўяе жыта або пшаніцу. Толькі ўзноў увага: выкі ня можна сеіць адначасна з жытам ці пшаніцай, бо яна расьце значна вальней і таму магла-б заглохнуць. Дзеля таго выку трэба сеіць асобна і раней, а жыта таксама асобна і пазьней, цераз тыдні 2—4 пасьля выкі. На гэктар высейваецца каля 60 кілё выкі і каля 50 кілё жыта або 60 кілё пшаніцы. Гэта на той выпадак, калі сеецца сеялкай. Калі ж сеецца на „шырока" (з рукі), тады трэба сеіць гусьцей, прыблізна па 100 кілё выкі і 100 кілё жыта (ці пшаніцы) на га. Жыта дамешваецца, калі хочам мець мяшанку ранейшую; пшаніцу-ж, калі мяшанка мае быць пазьнейшая. Акрамя таго, каб вырасшая мяшанка была ўсьцяж сочнай, маладой, яе ня можна і ня трэба сеіць усю за раз, а толькі па часьцях, як яе думаем зьбіраць.

Пачынаць сеіць выку трэба ўжо ў палове м-ца жніўня. Пры сяўбе сеялкай радок ад радка даецца на 20—25 см. Усейваючы пасьля жыта, трэба яго даваць у радкі паміж радкамі абыйшойшай ўжо да таго часу выкі. Пры сяўбе з рукі засееную выку і жыта (пшаніцу) прыбараноўваем цяжкой рэдкай бараной. Па сеялцы хопіць даць лёгкую барану.

Набываючы насеньне выкі заўсяды трэба запэўніцца ейнаю усходлівасьцю, бо з гэтага найчасьцей бываюць страты.

С. Я.

## Сухоты (тубэркулёза).

Гэта хранічная заразная хвароба выклікаецца спэцыфічным бацылам, якога у 1882 г. аб'явіў Кох. Творыць яна спачатку ў мускульных тканках малюсенькае лагво ў форме сальнай крупінкі, шэрай, празрыстай, якая пасьля з сярэдзіны распадаецца ў мелка крупністую масу. Гэтыя дробныя крупінкі могуць узноў зьліцца ў адну большую, каторыя ў сваю чаргу могуць тварыць большыя ці меншыя падзіны (поласьці), напоўненыя сьлізам, матэрыяй. На сьлізістых балонках усіх органаў творацца няправільнай формы верады з напохшымі берагамі. Гэтыя тубэркулёзныя логвы могуць звапнець і тады хвароба сама сабой мінае. Бактэрыі сухотаў (тубэркулёзы) могуць аднак крывёй быць перанесены ў іншыя мясцы (ныркі, вым'я, косьці) і гэтым выклікаць агульную хворасьць.

Зародкі сухотаў могуць спатыкаццца ўва ўсякіх выдзяленьнях з хворага цела, напр. у выдыханым паветры, у сьліне, у харкацінах, у вытоках з носу, у малацэ, у мачы, у сяменьні і г. д. Зараза паўстае або ў насьледзтве ад хворых на сухоты бацькоў, або заражэньнем (гэты спосаб у жывёлы часьцейшы).

Сухоты з заражэньня паўстаюць: а) пры кармленьні (асабліва маладняка сырым малаком), б) пры даўжэйшым прабываньні хворай на сухоты жывёлы з здаровай удыханьнем заражанага паветра. Пачаткавым месцам заражэньня на сухоты бываюць звычайна органы дыханьня або траўленьня, хоць ня выключана і заражэньне скуры. Заражаюцца сухотамі перадусім: скаціна, сьвіня і каза, радзей ужо авечка, а йшчэ менш конь, сабака, кот і хатнія птушкі. Сухоты жывёлы могуць быць перанесены і на чалавека.

Ня ўсе аднак расы скаціны аднолькава падкія на сухоты, нізінная скаціна больш падкая ад горскай; а штукі тэй-жа расы хутчэй хварэюць, калі з іншых якіх прычын бываюць аслаблены.

## Сухоты скаціны.

### *Істота і пашырэньне.*

Бактэрыі сухотаў выклікаюць на тых органах, дзе засядуць, усялякія наросты і верадавітыя зьмены. Разрозьніваюць сухоты адкрытыя, якія ў скаціны можна пазнаць ужо зьверху; зародкі хваробы выходзяць з цела (напр. пры высока разьвітай тубэркулёзе вым'я, радзільных органаў, чэрава). Закрытыя або ўтоеныя сухоты абмежываюцца на ўнутраныя органы (сюды належаць сухоты лёгкіх, пакуль ейныя логвы не распадуцца ў дыхальныя трубкі). Пры адкрытай форме сухотаў зараза перяносіцца проста з жывёлы хворай на здаровую. Гэткія выпадкі сухотаў трэба паведамляць вэтэрынарным уладам, каторыя абавязаны іх нішчыць. Здаровая жывёла заражаецца, акрамя ўдыханьня, яшчэ зьяданьнем сырога малака або малочных адпадкаў (поснае малако, масьлянка, кал, які астанецца з малака на цэнтрыфугах і сыраватка) ад кароў церпячых на сухоты вым'я; гэткім спосабам можна перанесьці сухоты ня толькі на цяляты і сьвіні, але і на чалавека.

### *Прыметы за жыва.*

Прыметы відомай формы сухотаў розныя, залежна ад таго, які орган сухотамі нападзены.

Відома распазнавальныя сухоты лёгкіх вызначаюцца кашлем, спачатку рэдкім, хоць

сільным і поўным, пасьля густым але слабым, нявыразным. Адначасна зьяўляецца расстройства органаў страўляючых. Вока траціць сваю жывасьць, поўсьць перастае быць бліскучай і становіцца шорсткай, скура цьвярдзее, траціць элястычнасьць (цягучасьць) і з трудом даецца адцягнуць пальцамі ад падскурных мускулаў. Часьцей таксама здараецца надыманьне бяз відомай прычыны.

Пры відома респазнавальнай форме сухотаў вым'я, адна ці некалькі частак (чвёртак) яго, выглядае разбракшым, цьвёрдым але бяз болю і бяз звышанай тэмпэратуры, але малако для звычайнага вока не паказвае ніякіх зьмен. Замест раўнамернага набракненьня цэлых чвёртак, бываюць часам толькі адзіночныя цьвёдыя, бязбольныя крупіны і шышкі (нарасты) ў сярэдзіне вым'я, каторыя асабліва добра даюцца распазнаць (вышчупаць) пальцамі ў вым'і выдаеным. Скаціна спачатку ня худае, але з часам прыйдзе і на гэта.

Карова хворая на сухоты радзільных органаў часта ўздымаецца на валы, з похвы бяз прычыны выдзяляецца выцёк, быццам пры заразным катары або пры ськіваньні. Выцёку бывае звычайна шмат, на выгляд ён сьлізіста-гнойны і бяз запаху.

Азнакай адкрытых сухотаў чэрава, якія спатыкаюцца рэдка, зьяўляецца развальненьне бяз відомай прычыны; гэта развальненьне не даецца вылечыць звычайнымі лекамі, адначасна заўважваецца значнае расстройства ўсяго страўнага апарату.

Таксама пры гэтых формах сухотаў вока хворай скаціны можа страціць сваю жывасьць, поўсьць становіцца бяслесклай і шурпатай, а скура — цьвёрдай, нерасьцяжнай. Адна штука скаціны можа мець дзьве і больш з гэтых формаў сухотаў.

У забітай жывёлы знаходзяць звычайна сухоты лёгкіх; акрамя таго — сухоты грудной і брушной перапоны (пэрлавіна), страўнага каналу, печані, радзей ужо сухоты вым'я, нырак, селязёнкі і касьці.

**Др. Ю. З.**

## Чырвонка ў сьвіней.

### *Істота хваробы і пашырэньне.*

Зараза гэта выклікана спэцыфічным (сумысным) бацылам чырвонкі, праходзіць скора і з значнымі агульнымі комплікацыямі. Асобная ўмяркаваная форма чырвонкі ёсьць г. зв. крапіўная гарачка, пры каторай на брусе, на хрыбце, на шыі, на вушах і на сьцёгнах жывёлы зьяўляюцца чатырохкутныя чырвоныя гарачыя плямы, бляднеючыя ад сярэдзіны да берагоў. Прычына хваробы знаходзіцца ў крыві; пры чырвонцы крапіўнай толькі ў хворых часьцях скуры. Хворая жывёла выдзяляе іх з калам з мачой. Калі пры забіцьці хворай жывёлы кроў няўважна саброна, спырскваецца ёй зямля, у каторую дастануцца і самыя бацылы хваробы. Заражаецца жывёла заражаным кормам і пойлай, рыцьцём у зямлі заражанай мачой, калам, крывёй ці якімі іншымі адпадкамі хворай жывёлы. Дзеля таго небясьпечным ёсьць кармленьне жывёлы купленай з бойні крывёй, мясам і іншымі адпадкамі або памыямі з тыхжа бойняў. Бацылы чырвонкі, выйшаўшы тым ці іншым спосабам з цела хворай жывёлы, асабліва шыбка разьвіваюцца пры цёплай пагодзе; таму чырвонка гэтак небясьпечная ўлетку.

### *Прыметы за жыва.*

Заражаная бацылам чырвонкі жывёла пачынае хварэць праз 2—3 дні; у яе аб'яўляецца высокая гарачка (41—42.8°C), падымаецца цяплыня скуры, траціцца ахвота да ежы, становіцца непаваротнай: многа ляжыць, залазіць у салому (у падсьцілку), а ўзагнаная—ідзе сланяючыся на бакі. На скуры хутка зьяўяцца чатырохкутныя чырвоныя плямы. Чырвонасьць скуры хутка пашыраецца і ўзмацняецца, так што пры даўжэйшым трываньні хваробы жывёла на сподняй часьці цела становіцца ўся чырвонай аж сінячырвонай. Без спэцыяльнага лячэньня ў большасьці выпадкаў хвароба канчаецца сьмерцю.

У некаторых выпадках чырваненьне пашыранае бывае не на цэлае цела, але абмежавана на большыя ці меншыя чатырохкутныя мясцы, якія пасьля напухаюць, так што усё хворае месца падымаецца; гэткая форма чырвонкі называецца крапіўнай і звычайна кончыцца выздараўленьнем.

### *Прыметы пасьмертныя.*

У сьвіней паўшых ад чырвонкі, акрамя чырвонасьці скуры, спатыкаецца запаленьне сьлізістых балонак трыбуха і чэрава (кішок), селязёнка напохшая, колеру сінячырвонага, таксама напохшая печань і крывавае запаленьне нырак.

Кожны выпадак чырвонкі як хваробы і ўстанаўленьне ейных прыметаў за жыва ці па сьмерці павінен быць азнаймлены вэтэрынарным уладам, а ўласьнік такой жывёлы павінен, аж да ўрадавага сьцьверджаньня хваробы, аддзяліць хворую жывёлу, каб зараза не перанасілася на жывёлу здаровую. З стады хворай жывёлы без вэтэрынарнага абсьледаваньня ня можа быць праданай ніводная штука.

### *Шчапеньне і іншыя процізаразныя сродкі.*

Шчапеньне проці чырвонкі сяньня так удасканалена, што даець блізу поўнае забесьпячэньне і дзеля таго ў мясцовасьцях, дзе чырвонка аб'яўляецца, трэба йшчэ з вясны ўсіх сьвіней шчапіць. У кожным аднак разе трэба шчапіць усіх сьвіней там, дзе за-

# Калі і як зьбіраць садовіну?

Практычныя садаводы падлічылі, што на найлепшым нават дрэве ня бывае больш добрай садовіны (яблыка, ігрушка і г. д.) як палова ўсяго ўраджаю; найчасьцей аднак з дзесяцёх штук усякай садовіны бывае добрых толькі дзьве-тры. Гэта паказвае, што кожную такую „добрую" штуку трэба асабліва старанна сабраць і перахаваць. Тады толькі садаводзтва і аплачываецца.

Аб тым, калі і як зьбіраць найчасьцей спатыканую ў нас садовіну, пісала „Самапомач" год таму назад (глядзі № 11, бач. 66—67, 1933 г.). Дзеля таго агранічымся тут да мамэнтаў толькі некаторых, адсылаючы ў рэшце пытаньняў да вышэйпададзенага артыкулу.

Летнія яблыкі і асабліва йгрушкі ня можна цалком сьпяліць на дрэве, бо страцяць сачыстасьць і станупца мучнатымі: іх трэба здымаць за тыдзень — паўтара і болей перад уласьцівай (фізіолёгічнай) сьпеласьцю. Дасьпяваньне яблыка на дрэве пазнаецца па тым, што зялёная скурка ягоная пачынае лёгка жаўцець, а зярнё—звычайна бранзовага колеру—мяняе яго на чорны. Натуральна, што мова тут аб яблыку зусім здаровым і нечарвівым, бо гэты апошні сьпее значна хутчэй. Сьпелая садовіна трымаецца на галінцы лёгка і спадае ўжо пры лёгкім устрасеньню.

Восеньскія сарты яблыкаў трэба здымаць таксама перад іхнай поўнай сьпеласьцю, як толькі заўважым лёгкае пажаўценьне скуркі плада, што знаходзіцца на абводзе кароны дрэва. У звычайныя гады пара гэта прыпадае на час паміж 20-тым верасьнем і 10-тым кастрычнікам.

Найцяжэй устанавіць пару збору садовіны зімавой. А мае гэта вялікае значэньне на перахаваньне яе праз круглы год. Кажуць, што чым пазьней вісяць такія сарты садовіны на дрэве, тым лепшы пасьля даюць тавар. Нават малы раньні прымаразак (ня ніжэй — 2°C) ня шкодзіць яблыку на дрэве, а толькі памагае ягонаму сьпяленьню.

А цяпер „як зьбіраць садовіну?"

Аб „трасеньні" садоў можна сказаць адно — гэта перажытак барбарыства. А гэта з дзьвюх прычын: калечацца гэтым пладаносныя галінкі дрэваў, а самі плады, хоцьбы яны вырасьлі на дрэве найлепшымі, найпрыгажэйшымі—раптам і беспаваротна трацяць характар тавару рынковага... Вось-жа зьбіраць садовіну трэба ў пагодныя дні, пасьля таго як ранішняя раса абсохне і да часу, калі вячэрняя ўзноў зьявіцца. Калі 6 днём прайшоў дождж, дык трэба пачакаць з зборам, пакуль абвеіць. Зьбіраць найлепш рукой, якая добра вычувае, які яблык ужо прыгодны да збору, а які йшчэ мусіць астацца на дрэве. Пачынаць збср трэба зьнізу і з вонкавага боку кароны дрэва, ступнёва падымаючыся ўверх і ўглыбку (да камля). Пры перакладаньні і пераношаньні трэба з рыначнымі пладамі ня меншай асьцярожнасьці, чым з... яйкамі, бо кожны націск ці то пальцам (асабліва — пазногцем) ці якім іншым спосабам калечыць плод беспаваротa.

Сабраныя плады трэба ўсьцяж мець на воку, перабіраць, сартаваць і г. д. Але аб гэтым наступным разам. **В. Р.**

---

раза чырвонкі ўжо абʻявілася. Нават у хворай ўжо жывёлы іньчапеньне ня раз памагло.

Чырвонка не спатыкаецца там, дзе сьвіні трымаюцца ў суху і дзе самыя хлявы для іх (сьвінчыкі) час ад часу дакладна вычысьцяцца і дэзынфікуюцца. **Др. Ю. З.**

---

# Сок з агрэсту бяз цукру.

Перахоўваецца доўгія гады. Можна з яго прыгатаўляць розныя сокі, галярэты, або ўжываць на кісель, да гарбаты і г. д. Прыгатаўляецца гэтак:

Агрэст зьбіраецца, калі ён ужо добра вырас, але яшчэ цьвёрды. Сабраныя гэтак ягады або расьціраюцца, або хутка перапускаюцца праз машынку да рассяканьня мяса на катлеты. Хутка трэба перапускаць дзеля таго, што сок, стыкаючыся з сталёвымі часьцямі машынкі цямнее і нават чарнее, а да таго — набірае паху і смаку па жалезе, што, натуральна, да прыемнасьці не належа. Самую машынку пасьля перагнаньня такога соку трэба таксама старанна вымыць, бо таксама чарнее.

Так ці гэтак расьцёртыя ягады агрэсту зьбіраюцца ў добра паліваны гаршчок і трымаюцца там праз 12 гадзін часу, а пасьля ўкладаюцца ў звычайны палатняны сырнік і выціскаюцца; пры гэтым сок узноў ня можа стыкацца ані з смольнымі дошкамі, ані з жалезам.

Выцісьнены сок зьліваецца ў вялікія шкляныя слаі, абвязваецца зьверху грубой, але чыстай (незадрукаванай, ані запісанай) паперай і пакідаецца праз 6 (шэсьць)тыдняў на сонечным вакне. У гэтым часе сок павінен „выкляравацца" (зрабіцца празрыстым); тады яго асьцярожна пераліваюць у начыньне другое, а як там састаіцца — зьліваюць у бутэлькі, у каторыя для лепшага паху ўкідаецца йшчэ па кавалку чыстай, цытрынавай скуркі. Скурка гэта мусіць быць добра ачышчана ад белага мякіша.

Гэтак прыгатаваны і разьліты ў бутэлькі агрэставы сок старанна каркуецца. Корак, які ня сьмее датыкацца самога соку, залівацца лякам, воскам або парафінай. Бутэлькі пасьля выносяцца ў халаднавае месца (ў склеп), стаўляюцца ўверх дном і могуць там перахоўвацца цэлымі гадамі.

Добры агрэставы сок зусім добра замяняе дарагі прывозны сок цытрынавы.

**Ц. В.**

## Сьпяленьне мёду.

Добры мёд толькі тады, калі ён у пару высьпеляны. Мёд, які з якой-небудзь прычыны ня быў высьпеляны, бывае нятрывалкім, кісьне і аканчальна псуецца. Нясьпеласьць мёду залежа ад таго, што ў ім за шмат бывае вады (больш 20 проц.) Навонках такі (нясьпелы) мёд мае крыху зелянаваты колер, выглядае мутным і звычайна ня сцукроўваецца. Сьпелы мёд у вульлі тады толькі, як ён ужо пачаў засклепліватца і як ён не выцякае з рамкі пахіленай укосна пад кутом 45°.

Сьпяленьне мёду мае за заданьне адабраць лішнюю ваду. Робяць гэта ў вульлі самі пчолы — сьпяленьне натуральнае. Калі-ж чалавек пасьпяшыцца выбраць з вульля мёд перш, чымся пчала пасьпее яго высьпяліць, тады гэту работу каля сьпяленьня мусіць зрабіць сам чалавек.

Натуральнае сьпяленьне мёду адбываецца ў вульлі. Пчолы падчас мёдазбору ня маюць адпачынку нават і ўночы, яны бязупынна лятаюць каля мядовых чарачак і дрыжэньнем сваіх крыльляў прыводзяць у шыбкі рух усё паветра ў вульлі. Ад гэтага выпароўваецца з мёду лішняя вада і ён сьпее.

Штучнае сьпяленьне мёду мае тоесамае заданьне — адпароўваньне з мёду лішняй вады. Таму сьвежа выбраны мёд, асабліва ў пару самага мёдазбору (м-ц чэрвень ліпень) ня можна зьліваць у вузкія і высокія пасудзіны, але наадварот—у шырокія і плыткія (мелкія). Пасудзіны-ж гэтыя ня трэба і нават ня можна зачыняць (закарковываць) на глуха, але трэба прыкрыць толькі чыстай палатнянай прыкрыўкай. Гэтак прыгатаваныя судзіны з мёдам трэба паставіць абавязкава ў сухое, па магчымасьці ў правеўнае месца. Хто мае больш такога мёду да сьпяленьня, можа дзеля гэтага выкарыстаць звычайнае сонечнае цяпло. Але найлепш напоўненыя гэтак судзіны з мёдам паставіць на вышкі чардак пад страху) будынку крытага бляхай. У гэткім месцы, як ведама, днём бывае вельмі цёпла, а ўночы ўсё астывае: ад гэтага мёд ня толькі хутка траціць ваду (сьпее), але і цукруецца. Пры малой колькасьці мёду (адзін-два збанкі) яго ставяць на вакно ў хаце.

Калі-б узноў нейдзе так сталася—а бывае гэта, на жаль, вельмі часта і густа, — што сьвежа выбраны мёд усё-ж ня высьпее і пачне фермэнтавацца, тады таксама ня трэба складаць рук і рахаваць што ўсё страчана. Не! Тады трэба толькі гэткі мёд пераварыць. Але, ўвага! Ня можна гэтага рабіць проста на вагні. На вагонь ставіцца якісь большы рондаль ці гаршчок да палавіны напоўнены вадой і ў гэту ваду толькі ўстаўляецца судзіна з мёдам. Цяплыня падаграванай вады перадаецца мёду і ён пачынае варыцца. Пры гэтым на мёдзе ўздымаецца пена, якую трэба старанна і да чыста здымаць, аж пакуль гэтай пены ня стане. Але вышэй 60°C падаграваць ня можна.

Гэтак сама падаграваюць мёд сцукраваны, калі хочуць яго пералажыць з аднае судзіны ў другую — з большае ў некалькі меншых ці наадварот.

**Міх. Чар—скі.**

---

## Лек ад укушэньня камароў, пчол, мух.

Укушэньне камара і пчалы перастае сьвярбець і балець, калі ўкушанае месца заразжа пашмаруецца калёньскай вадой, камфоравым сьпіртам або аммоніякам (нашатырам). Ня можна пры гэтым трымаць жала ў ране, а зараз-жа выцягнуць—рукамі, шчыпчыкамі або так выціснуць, як выціскаюць вугры. Калі-б жала ня можна было выбраць, трэба цела вокал ранкі ціскаць старанна, каб стуль вышла кроў, з каторай выйдзе і пчаліны яд.

Укушэньне павука бывае труючым і месца ўкусу трэба змываць соленай вадой або воцтам.

Мясцы пакусаныя камарамі найлепш змываць вадой, у каторай распушчаны алун, дадана 2 лыжкі воцту і 1 лыжка гліцэрыны.

Каб укушанае месца перастала пяршэць, радзяць яшчэ:

а) пасыпаць яго тоўчаным бульбяным крахмалам, або

б) добра намыліць мылам, або

в) прылажыць лістком цыбулі, або—найлепш— нацёрці хлёроформам.

**Ц.**

---

## Гарачая вада як сродак проці шкоднікаў на хатніх вазонах.

Тэмпэратура 50°C ня шкодзіць расьцінам, калі дзеіць ня доўгі час —3—5 мінут,— але шкодзіць і забівае ў гэты ж час усіх шкоднікаў на вазонах, якія гінуць часта ўжо пры 40—45°C, калі ня маюць сумыснага панцыра. Гэта-ж вада шкодзіць аднак і на карэньні вазоннай расьціны.

Вось-жа гэту ўласьцівасьць гарачай вады можна выкарыстаць на тое, каб абараніць вазоны ад рознаякіх шкоднікаў. Дзеля гэтага вазон нападзены мшыцай, або чырвоным павуком затопліваецца (перавернены ўверх дном) пароўна карэньня у гарачую ваду на 3—5 мінут. Тэмпэратуру 40—50°C трэба добра вымерыць тэрмомэтрам, бо пры вышэйшай як 50°C тэмпэратуры гіне і сама вазонная расьцінка.

Вялікія вазоны, каторыя трудна было-б затопліваць у судзіне з вадой, трэба палíваць такой-жа гарачай вадой з палівачкі

# Як зьбіраць і прыгатаўляць грыбы.

(*Працяг, гл. „Самапомач“ № 6*).

Баравікі найчасьцей спатыканыя маюць корань белы, або белаваты (корань ніколі ня мае колеру чырвонага ці жоўтага), шапачка цёмная, спод шапачкі, калі баравік малады — белы, а калі стары – то бледна-жоўты і зялёны, а калі нажом перарэжым корань, то сярэдзіна будзе белай.

а) Зьбіраньне. Баравікі растуць ад месяца травеня (мая) да позна восені. Зьбіраючы баравікі вялікія, нажом сьцінаем корань каля самае зямлі; меншыя-ж грыбы — асьцярожна трэба вырваць, ня псуючы г. зв. падземных каранёў грыбоў. Маленькія грыбкі больш прыгодны на марынаваньне і кансэрваваньне і дзеля гэтага зьбіраючы грыбы аддзяляйма іх ад большых, ачышчаючы корань іх ад бруду. Баравікі большыя і здаровыя, каторыя маем сушыць, трэба чысьценька перабраць і корань абрэзаць, пакідаючы найбольш 3—4 см. даўжыні.

Баравікі „жаўтакі“ (спод шапачкі жоўты) маюць ніжэйшую якасьць і ня можна іх тады мяшаць з праўдзівымі баравікамі.

б) Сушэньне. Сушыць баравікі можна на сонцы, у печах і ў адпаведна зробленых сушарнях. Сушачы баравікі на сонцы трэба нізаць іх на шнур даўжынёю 1 мэтра, асобна „жаўтакі,“ асобна грыбы белыя з карэньнямі даўжынёю да 3—4 см., асобна грыбы белыя з карэньнямі даўжынёю да 2 см., і наканец асобна белыя шапачкі, бо яны розьняцца паміж сабой што да якасьці. Ніжачы баравікі трэба ўважаць, каб пасярэдзіне шнурка знахсдзіліся грыбы з шапачкамі большымі, а да канцоў зьліжаючыся — шапачкі павінны быць меншыя і галоўкі павінны быць зьвернены ў сярэдзіну шнурка. Зьвязаныя шнуркі з грыбамі твораць вянкі, каторыя будуць сохнуць на месцы правеўным, высокім, на сонцы, завешаныя на чыстых пруткох.

У нас звычайна грыбы сушаць у печах, а мала знаюць іншыя способы сушэньня. Сушачы ў печах, трэба палажыць воддаль грыб ад грыбка, на блясе ацынкаванай або на сетках (толькі не на аржавых). Ізноў і тут трэба глядзець, каб не перапаліць ці не памяшаць з попелам. Калі ў печы грыбы ня высахлі, то ў вышэй сказаны спосаб можна падсушыць на сонцы.

в) Сартаваньне. Мы вельмі мала зварочываем увагу на сартаваньне грыбоў і мяшаем грыбы з карэньнямі і даўгімі карэньнямі, старыя з маладымі, ніжачы усё на адзін вянок. А з гэтага выходзіць толькі страта, бо скупшчык дае шмат горшую плату за іх. Сартаваць баравікі трэба гэтак: 1) Шапачкі баравікоў з белым сподам, без карэньняў — гэта найлепшы і найдаражэйшы сорт сушаных баравікоў, здаровых, неперапаленых, з шапачкамі адзінакавай велічы. 2) Баравікі з белым сподам шапачкі і з карэньнямі даўжынёю да 2 см. 3) Баравікі з сподам шапачак белым, карэньнямі даўжынёю 3—4 см., галоўкі могуць быць тут трохі ўшкоджанымі і перасушанымі. 4) „Жаўтакі“ з карэньнямі — гэта нізкі гатунак. 5) Карэньне баравікоў.

г) Апакаваньне сушаных баравікоў. Грыбы да сушэньня нанізваюцца на шнуркі даўжынёю 1 мэтра, у форме вянкоў. Сушаныя на шнурках грыбы ня варта перанізываць (хіба ёсьць грыбы перапаленыя ці паламаныя). Тыя грыбы, што сохлі кожны паасобку, будзем нізаць на вянок.

Кожны вянок—гэта асобны гатунак і дзеля гэтага не мяшайма разам розныя сарты. Запаковываць грыбы трэба ў чыстыя кошыкі ці карзінкі высланыя чыстай, незадрукаванай паперай. У мяшкох высылаць баравікі ня можна, бо грыбы пры гэтым крышацца.

д) Перахоўваньне сушаных баравікоў. Сушаныя баравікі перад высылкай павінны перахоўвацца ў чыстым, сухім і магчыма правеўным мейсцы. Вянкі найлепей развесіць на пруток.

Гэтак сабраны і дагледжаны грыб заўсёды лепш аплаціць самога сябе.

Ю. Б.

праз вельмі густое сіта. Але, ўвага! Ня можна так паліваць, каб вада з вазону сплывала на карэньні, бо гэта шкодзіла-б ім і цэламу вазону: вазон трэба палажыць над нейкай большай судзіной і так паліваць, каб вада сплывала ўбок.

Ц.

# Гаспадарчая хроніка.

1—шы кірмаш на футры і футраныя вырабы ў Вільні арганізуецца ў міжчасе ад 18 жніўня да 9 верасьня сёл. На кірмашы будуць прадстаўніцтвы ўсіх фабрык краёвых, з Польшчы і з заграніцы. Між іншым запэўнена ўчасьце савецкіх (расейскіх) фірмаў. Вартасьць іхных экспонатаў абліча-ецца на 100.000.000 рублёў.

Агранамічны Аддзел пры Віленскім Унівэрсытэце загрожаны. Згодна з весткамі прэсы, Міністэрства асьветы забараніла прымаць запісы на 1-шы курс Агранамічнага Аддзелу Віленскага Унівэрсытэту. Азначае гэта павольнае касаваньне цэлага Аддзелу і край наш узноў астанецца бяз вышэйшай школьнай пляцоўкі.

Можа-б так падумалі ўрэшце аб заснаваньні ў нас сярэдняй школы гаспадарчай?

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

## Наша пошта.

В. Д—скі: Ад 1-га ліпня сёл. ўвайшоў у сілу закон з 27.X.33 г, паводле якога „уласьнік жывёлы або той, хто жывёлай карыстаецца, цалком адказны за шкоду, якую яна зрабіла, незалежна ад таго ці яна была пад яго наглядам, ці заблудзіла або ўцякла..." Злоўленую ў шкодзе жывёлу маеце права „забіраць у хлеў" (да нядаўна гэта было скасавана) і дамагацца, нават судова, адшкадаваньня на падставе расцэнкі зробленай солтысам і панятымі (сьведкамі).

Б. Ба—іч: хто-б у нас гадаваў люцэрну — ня ведаем. Радзім Вам аднак на вясьняную пашу спрабаваць сеіць мешанку зімовай (касматай) выкі з жытам. Прачытаеце аб гэтым больш у стацьці „Сейце зімовую выку!" у сяньняшнім нумары „Самапомачы."

Ст. Хар—к: Будзе ўжо хіба позна. Кажуць аднак, што мурашкі ня любяць нафталіны і калі ёй пасыпаць мурашнік, дык з яго ўцякуць. Папрабуйце! Але шкоды, аб якіх пішаце, бадай ня будуць ад мурашак, бо яны гэтак ня шкодзяць.

Б. С—ка: „Самапомач" выходзіць ужо трэці год, стала, раз у месяц. Ад 1-га красавіка пабольшыла свой разьмер. Аб дальшым пабольшаньні будзем думаць, калі часопісь у гэтай форме станецца самаставальнаю (самастарчальнаю) Прызнаём, што яна за малая. Але такая часопісь, якія ейныя чытачы: як лік чытачоў пабольшыцца, пабольшыцца і разьмер часопісі. Пробны нумар пасылаем. Спадзяёмся, што зьберыце падпіску на дзесяць экзэмпляраў (12 злотаў).

М. Н—віч і А. А—ая: Пробныя нумары „Самапомачы" высылаем. Дальшыя пасылаць будзем толькі па атрыманьні падпіскі

В. В: Вы, здаецца, асабліва любіце „пробныя" нумары, бо паводле нашых зацемак пасылаем Вам ужо гэткі „пробны" нумар трэці раз; але ўжо і апошні. Дальш будзем высылаць толькі па атрыманьні падпіскі.

Л. Т—ка і П. Б—віч: Адказ Вам ідзе асобнымі пісьмамі.

Каса Стэфчыка ў Жодзішках. Да Вашага камплекту далучаецца йшчэ адзін экзэмпляр для Фр. Бабка ў Пільцях.

*УВАГА!* *УВАГА!*

*Ад наступнага нумару пачынаючы, пры рэдакцыі «Самапомачы» ўводзіцца аддзел праўных парадаў, якія будзе весьці безінтэрэсоўна беларуская адвакацкая сіла. Асобы, якія маюць якісь пытаньні, павінны іх ясна і выразна напісаць на пісьме і прыслаць у нашу рэдакцыю. Адказы — невялікія будуць друкавацца ў «Самапомачы». На адказы большыя трэба далучыць паштовую марку за 30 грашоў.*

*Рэдакцыя*
*„САМАПОМАЧЫ"*

